Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# ЗАРА ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр., на 3 мес. — 4 зл., на паўгоду — 8 зл., на год — 15 зл., заграніцу ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 грош. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№ 4 Вільня, Серада 13-га чэрвеня 1928 г. Год 1

## Спадароушчына на зьмерку.

Не расцвел и отцвел
В блеске летняго дня...

Ня так ужо даўно на беларускай палітычнай авансцэне зьявіўся з „высокіх студыяў у Празе Чэскай“ доктар філёзофіі Янка Станкевіч, ці, як папулярна яго называе, з яго ўласных слоў, беларуская прэса—„научоны спадар“. З лёгкай рукі гэтае папулярнае слова хутка распаўсюдзілася паміж шырокіх беларускіх працоўных гушчаў, і цяпер на ўсім абшары Зах. Беларусі ведаюць названую асобу пад гэтым імем, пераменяючы часам яго на вытваранае самім народам — „Паўлючок“.

Асоба вельмі арыгінальная па сваей натуры, маючая за сабою пэўную прошласьць у беларускім руху—Янка Станкевіч па прыезьдзе сваім у Вільню хутка зьвярнуў на сябе агульную ўвагу сваімі „дзівосамі і сьмяхотамі“, праяўленымі на полі „рэформы“ ім — беларускае мовы, спачатку на старонках „Сялянскае Нівы“, фактычным рэдактарам якое ён зразу-ж па прыезьдзе стаўся, а потым і ўсюды, дзе толькі мог прылажыць руку, стаўшыся праз гэта об'ектам самага непадробленага гумару для „Маланкі“, як таксама і для ўсей беларускай інтэлігенцыі.

Палітычна Янка Станкевіч нявыраблены. Валадае найбольш яскрава выяўленым інстынктам, згодна якому ўсе яго лічылі беларускім шовіністам, стоячым на самым правым крыле ўсяго руху наагул. Па прыезьдзе з Прагі прыстаў да „Сель-Саюзу“, з цячэньнем, аднак, вельмі кароткага часу адыйшоў ад яго, творачы ўжо разам з выразнымі грамадзкімі авантурнікамі „Сялянскую Партыю“ з вельмі такі нявыразным палітычным абліччам. Радыкальная прэса, вітаючы адыход Янкі Станкевіча ад „Сель-саюзу“, думала бачыць у гэтым адыходзе фактар, спрыяючы шырокай народнай справе, аднак ацэньвала гэты факт з вялікімі засьцярогамі.

Гэтыя засьцярогі не аказаліся лішнімі. Пры наступіўшых выбарах Янка Станкевіч пашоў ужо выразна проці работніцка-сялянскага руху, стаўшы на адну плашчыню з Умястоўскім ды Паўлюкевічам. Дзякуючы проста такі спэцыяльнай выбарнай кон'юнктуры — па Лідзкай выбарнай акрузе, дзе былі пакасованы ня толькі сялянска-работніцкія, але навет усе беларускія сьпіскі—Я. С. разам з ідучым за ім Ф. Валынцам прайшлі ў Сойм. Пачаўся новы пэрыяд сьвежасфабрыкаванае палітычнае арганізацыі, новая праца, якая і носіць назоў—*спадароўшчына*.

На беларускім сьметніку, які мае назоў „Народ“, паўстаў запраўдны пятушыны бой проці „ўсіх і ўся“, не разьбіраючы ні правых, ні левых. Поруч пачаўся шум з тварэньнем нейкіх штучных „польска-беларускіх т-ваў“, „гаспадарчых зьвязаў“, жаночых ды яшчэ якіхсьці гурткоў. Сталі хадзіць чуткі аб ліквідацыі Вярнікоўшчыны, Умястоўшчыны, аб зьліцьці ўсіх гэтых „палёнафільскіх“ арганізацыяў у спадароўскім рэчышчы. Але так растучая спадароўшчына ўжо ў самым сваім зародку мела гніль—брак стычнасьці з працоўнымі масамі, якія складаюць галоўны фундамант жыцьця і росцьвіту ўсялякай арганізацыі. „Спадароўшчына“ чаплялася за вярхі, а пад нагамі апынулася прорва.

Аж раптам заламалася. Пас. Валынец адыходзіць ад свайго саюзьніка, прадстаўнікі нэйтральнага грамадзянства ня хочуць мець з Янкам нічога супольнага, пашлі ўпорлівыя чуткі аб расчараваньні ў самым блізкім, вельмі нялічным, акружэньні доктара, у народзе Янка слыве за „Паўлючка“ з усімі вынікаючымі адгэтуль насьледкамі. Адным словам—*пачаўся зьмерк спадароўшчыны*.

Янка Станкевіч у сваей генэральскай амбіцыі „дзеяча“ аказаўся прыладай у руках пэўных колаў віленскай санацыі, якая думала бачыць у ім прадстаўніка нейкага адламу беларускага грамадзянства, які, процістаўляючы розным „вывротувцам“, хацела зрабіць ручным і праз яго... рабіць „беларускую справу“. Цяпер і яна, як відно, астаецца ля разьбітага карыта.

Жыцьцё мацнейшае за генэральскія і за маральныя камбінацыі. Есьць беларускія працоўныя гушчы, якія жыцьцёвыя абставіны прывялі да масавых арганізацыяў і да масавай сьвядомасьці. З гэтаю сьвядомасьцю трэба лічыцца ўсім. Памёр Паўлюкевіч, паміраe Умястоўшчына, на чарзе і спадароўшчына. А народ усё перажывае.

## Крызіс фашызму у Італіі.

Газэты нядаўна падалі сэнсацыйную вестку аб тым, быццам Мусоліні сам — на выпадак сваей сьмерці — рые ўжо магілу заадно ўжо — і спароджанаму ім фашызму, рыхтуючы пераход да адбудаванай дэмакратыі!... Весткі, якія ідуць з Італіі,—аб гаспадарчым заняпадзе краю, які фашыстаўская сыстэма ўжо яўна для саміх усемагутных там капіталістаў вядзе да катастрофы, даскanала тлумачыць гэтыя паніхідныя перакананьні Мусоліні...

Цікаўныя факты і лічбы ў гэтай справе падае італьянскі сацыяліст-эмігрант Модзільяні (прыведзены ў № 156 „Robotnika“ — арт. п. Чапіньскага).

Гадовая справаздача дырэктара Італьянскага Дзяржаўнага Банку сцьвярджае вельмі дрэннае агульнае фінансава-гаспадарчае палажэньне краю.

Справаздача сцьвярджае—агульны гаспадарчы застой у краі; зьменшаньне агульнага спажыцьця ў краі; недахоп грошаў і крэдыту ў краі; далейшае зьменшаньне рынку для краёвага і загранічнага гандлю—пры цэнах у краі вышэйшых, чым загранічныя. Усе гэтыя зьявішчы беспасярэдна выкліканы мерамі ўраду — па падняцьцю валюты і адначасnаму зьменшаньню лічбы курсуючых у краі інфляцыйных, мала цэнных ліраў, ці прасьцей — аздараўленьнем ад „вадзянкі“ грашовага абегу ў краі.

Дык — як толькі італьянскі ўрад стаў аздараўляць сваю валюту, дык зараз-жа і скончыліся ўсе так гучна рэклямаваныя пасьпехі фашыстаўскай гаспадаркі...

Палажэньне пагаршаецца яшчэ і тым, што, як гэта было ня так даўно і ў Польшчы, — падняцьце вартасьці валюты не выклікае суадказнага спадку цэнаў у краі на тавары, у выніку чаго ствараецца страшэнная дарагоўля ў краі, выклікаючая бунты навет сярод фашыстаўскіх, работніцкіх і іншых арганізацыяў, пагражаючы так рэклямаванаму фашызмам „сацыяльнаму міру“ ў краі.

Вынікам усяго гэтага зьяўляецца — паніжэньне наагул загранічнага гандлю Італіі—як увозу, таксама і вывазу, асабліва—апошняга. За мінулы год гандлёвы дэфіцыт (недахоп грошаў у краі — з прычыны перэвагі ўвозу над вывазам) узрос з 4,4 мільярдаў да 4,8 мільярдаў. А фактычна гэты дэфіцыт — яшчэ большы, бо вартасьць італьянскай валюты паднялася.

Гаспадарчы заняпад Італіі — пад фашыстаўскім урадам — выказаўся ня толькі ў прамысловасьці ды гандлю, але і ў земляробстве: справаздача дырэктара Банку сцьвярджае зьменшаньне засеўнай плошчы ў краі і тасаваньня штучных гнаёў.

Ня менш цікаўныя лічбы падае афіцыяльна мін. скарбу. Міністар сцьвярджае значны спадак увозу—вывазу—штосьці—на 300 мільёнаў за 3 першыя месяцы гэтага году,—у параўнаньні з папярэднім. Усё гэта, зразумела, адбіваецца ад'емна на спагоне падаткаў з гандлёвых абаротаў, што асабліва непакоіць мін. скарбу. Але фашыстаўскі ўрад потым зусім ня мае намеру зьмяняць сваей палітыкі вялікадзяржаўнага імпэрыялізму, а дзеля таго — зусім ня думае зьмяншаць выдаткаў на гэтыя свае каштоўныя „амбіцыі“. Дык урад не зьмяншае бюджэту, а наадварот — павялічвае яго.

У дадатку да ўсяго гэтага палітыка Мусоліні папсавала стасункі палітычныя, а потым і гандлёвыя, з краямі, якія гаспадарча зьяўляюцца найбольш патрэбнымі ды карыснымі для Італіі, — як Францыя, Югаславія і Аўстрыя. А ўрад усьцяж накладае ды спаганяе падаткі, не зьмяншаючы іх цяжару, як усьцяж абяцае, але, наадварот — павялічваючы яго...

Вось тутака зьяўляецца найвялікшая небясьпека для фашызму, калі — не для самой Італіі.

—·—

Як ведама, сацыяльны зьмест фашызму і „смак“ так рэклямаваных ім—„сацыяльнай раўнавагі“ ды „сацыяльнага міру“ — у тым, што прамысловец, абшарнік, банкір, ці гандляр, заўсёды — пры дапамозе ўсяго пакорнага ім дзяржаўнага апарату — могуць — бо маюць сілу — перакладаць усе цяжары працы ды падаткаў на каркі працоўных. Дык пакуль гэтыя капіталісты мелі — дзякуючы таннай валюце ды таннай працы ў краі — вялікія зыскі з загранічнага гандлю, дык усё йшло добра, мірна, гладка, згодна. Капіталісты, ня дзелючыся з працоўнымі сваімі вялізарнымі зыскамі, маглі ня вельмі, праўду кажучы, і крыўдзіць іх: таннасьці працы суадказвала адносная таннасьць тавараў, — наагул жыцьця, такім чынам і магчыма было для фашызму раздушыць вольны работніцкі рух, разьбіць арганізацыю работніцкіх партыяў, стварыць свае „сындыкаты“, дзе ўжываліся неяк разам у аднэй арганізацыі і працадаўцы і працаўнікі, — стварыць ілюзыю поўнага скасаваньня клясавай барацьбы, чым так хваліцца Мусоліні...

Але цяпер, калі гэтыя штучныя фінансавыя варункі ў краі спыніліся, „клясавая вайна“ ў краі паўстае ізноў у-ва ўсей яе сіле... Цяпер капіталіст, на якога фашыстаўскі імпэрыялізм усьцяж накладае непадсільныя для яго падаткавыя цяжары, павінен усё больш і больш, як кажуць, дакладаць галавой работніка...

Хаця-ж фашыстаўскі ўрад, імпэрыялістычны на вонках ды паліцэйска-мілітарыстычны ўнутры краю, заўсёды трымае руку капіталістаў, але, нажаль, — гэтаму перакладаньню цяжараў з карку капіталіста на карк работніка ёсьць ведамы рубеж.

І вось гэты рубеж на нашых вачох пачынае пераходзіцца ў фашыстаўскай Італіі. Пасол Модыльяні сцьвярджае, што — работніцкія платы гвалтоўна спадаюць цяпер у краі. Асабліва, як заўсёды, безбаронна эксплёатуецца вёска: на вёсцы платы спалі напалову — раўнуючы да — фашыстаўскіх часоў... Таксама амаль не на 50% спадаюць платы і ў мястовых прамысловых цэнтрах.

Дык навет фашыстаўскія работніцкія арганізацыі пачалі бунтавацца... Пачаліся мітынгі, зьезды работніцкіх арганізацыяў, якія выносяць вострыя рэзалюцыі пратэсту. Спадак платаў асабліва раздражняе — бо побач з ім ідзе ўзрост дарагоўлі, гандлёвыя пасрэднікі — драбнейшая буржуазія — гледзячы на буйнейшую: фабрыкантаў ды аптавікоў,— ня хоча адставаць ад іх, дый таксама перакладае цалком, а можа дык і з дадаткам, — цяжары дарагоўлі на карк спажыўца — працаўніка... Работнік усё больш і больш пачынае адчуваць суровую, жорсткую праўду свайго сацыяльнага палажэньня, закрытую ад яго часовай штучна—створанай „добрай канъюктурай“ ды траекуча—імпэрыялістычнай фразолёгіяй фашызму... Усё больш пачынае разумець работнік сумную патрэбу сацыяльнай барацьбы — сумную праўду сацыялізму... Чаму? — А вось — хаця б таму, што — толькі што італьянскі работнік меў некалькі раз на тыдзень мяса, цяпер ня мае... Побач з тым — расьце ў краі безработцьце, расьце і армія безработных, гэты „авангард“ у барацьбе.

Панаючыя ў Італіі клясы бачаць 2 выхады з палажэньня: або паварот да нармальнага стану, да дэмакратыі ды больш менш вольнай сацыяльнай раўнавагі ў краі, а — у першую чаргу — спыненьне тэй запраўднай паншчыны для працоўных, якой зьяўляецца ды робіцца ўсё больш фашыстаўская „сацыяльная раўнавага“, выклікаючая пагрозу вострага выбуху сацыяльных супярэчнасьцяў, ці новую рэвалюцыю злева; або — якуюсь новую імпэрыялістычную авантуру, якая-б кінула масу „звольненых ад працы“, ня маючых месца ў краі, „лішніх“, беспакойных і небясьпечных людзей (з прычыны гаспадарчага крызісу) — на ваенную бойню...

Што выбярэ ў апошні мамэнт Мусоліні, цяжка сказаць. Справу можа вырашыць, як гэта бывае ў такіх выпадках, — прыпадак, тая, ці іншая „іскра“, кінутая ходам падзей у той „склад пораху“, якім зьяўляецца фашыстаўская Італія, захопленая вострым крызісам... Як бачым, Мусоліні ўжо кажа аб „пераходзе да дэмакратыі“. Сам быццам капае ўжо магілу сабе і свайму фашызму, пяе яму паніхіду...

Але гэта не павінна нікому „замыліваць вочы“... Бо-ж у кожны мамэнт той-жа Мусоліні можа раптам зрабіць—„дэвэрсыю“, затрубіўшы паход—ці на Югаславію, ці на французкі Туніс, ці навет—на самую Францыю...

Бо-ж ніколі, пакаштаваўшы ўлады, так лёгка з ёй не разлучаюцца...

## З Сойму.

*(14 паседжаньне).*

### Дыскусія над бюджэтам Міністэрства Земляробства і Зямельных Рэформаў.

На пачатку 14 паседжаньня Сойму (2 ч.) пас. Зьвежыньскі (Н. Д.) ад імя рэгуляміновай камісіі здаваў справу з унёску пас. Вацлава Бінікэра, з Хрысьц. Дэм. аб скасаваньні мандату камуністычнага пасла Гэнрыка Бітнэра, выбранага ў Лодзі.

Рэгуляміновая камісія знайшла, што гэты ўнёсак падаены фармальна і „аднамысна“ прапануе аддаць справу важнасьці мандату п. Г. Бітнэра на разгляд Найвышэйшаму Суду.

Па дыскусіі, у якой вельмі цікавую пазіцыю заняло „Вызваленьне“, дамагаючыся аддачы ўнёску ў Найвышэйшы Суд, прапанова рэгуляміновай камісіі прайшла большасьцю галасоў.

Наступна Сойм перайшоў да дыскусіі над бюджэтам Мін. Земляробства. Першы прамаўляў пасол Сівец (ББ), вылічаючы заслугі цяперашняга ўраду перад земляробствам.

Наступны прамоўца пас. Фіялкоўскі закрануў адносіны ўраду да грамадзкіх арганізацыяў.

### „Нятыкальныя мядзьведзі“.

Досыць ажыўленьня ў гэтую манатонную дыскусію ўнясла прамова ўкраінскага пасла Шэкэрын Доньніва. Гаворачы аб варунках жыцьця свайго жыхарства, ён, між іншым, сказаў так:

„Ваўкі й мядзьведзі робяць вялікія шкоды ў стадах быдла, а ёсьць распараджэньне, што ня можна забіваць матку-мядзьведзіху. Дык, значыць, „гуцуль“ мусіць „элеганцка“ ўвабрацца, пайсьці з візытай да мядзьведзіхі і запытаць у яе, ці мае яна дзетак... Даўней, каб адпудзіць мядзьведзяў, мы мелі пісталеты, набітыя порахам і папярай. Цяпер-жа мець пісталеты нам забаронена. Дык адгэтуль пастух мусіць зьняць перад мядзьведзем шапку і маліць у яго амністыі для свайго быдла“.

Чародна прамаўляў міністар Незабытоўскі ў апраўданьне ад закідаў у справе мэльярацыі (асушкі балотаў), эксплёатацыі лесу і надужыцьцяў у надлясьніцтвах і т. п.

Па прамове рэфэрэнта Стадніцкага (ББ) дыскусія закончана. Наступае паўднёвы перарыў.

### Зямельныя рэформы.

На папаўднёвым паседжаньні Сойм разглядаў бюджэт Зямельных Рэформаў. Рэфэрэнт пас. Маліноўскі крытыкаваў парцэляцыю, скардзячыся, што яна адбываецца пераважна з „wolnej ręki“, дзякуючы чаму цана зямлі страшэнна вялікая, аж 5,000 зл. за гэктар (w Lubelskiem). Дык бедны селянін з гэтай парцэляцыі нічога не дастане.

Наступна прамаўлялі розныя паслы, між імі, пас. Гаўрылік, ад Бел. Пас. Клюбу „Змаганьне“.

Прамову пасла Гаўрыліка падамо асобна.

У канцы прамаўляў, амаль ня 2 гадзіны, міністар Зямельных Рэформаў.

